* * *

Я вечнасці вялікай — толькі міг,
Які сваё нясе у свет упарта:
Сваю любоў, нянавісць,
Зрок і слых,
Сваё жыццё,—
Пакуль яго я варта.

* * *

А нядаўна так шумела
Юнае маё жыццё!
І стаяла я няўмелая:
— А дзе ж мудрасць?
Каб знацце!

Мае дрэвы! Вам за дваццаць,
І мне гэтулькі ж гадоў.
Ды мінула ўжо юнацтва,
А няма ўсё мудрых слоў.

І аднойчы мне здалося,
Што шапнулі кроны дрэў:
— Быць наіўнаю не бойся,
Дрэнна тым, хто стаў мудрэй.

Вось рабінай пераспелаю
Зажурылася жыццё...
Я, напэўна, пастарэла,
Дзе ж наіўнасць?
Каб знацце!

* * *

Над ракою ціша,
і вясло
З нерухомай лодкі павісае.
Месяц, як гусінае крыло,
Схаладзела пабялеў над гаем.

За мастом
з падводаю каня
Падганяе час — няўмольны робат.
Чуйна спіць стамлёная зямля,
Помнячы і ў сне свой клопат.

Сніцца ёй, што жыта прарасло,
Зелянеюць шчодра ў лузе травы...
Змрок гусцее, нізка над сялом
Сцелецца туман вільготны млява...

Быццам не гарэла тут сяло
І ніколі не было аблавы!

## ЛЯ ВЕЧНАГА АГНЮ

Зараслі ля Вечнага агню
Зямля — кветкамі,
Камень — імёнамі.

Прывяду сюды дачку сваю,
Што ў мяне ўлюбёная-ўлюбёная.
Хай паслухае журбу агню
І пагладзіць літары далоняю.

## ДОБРА, КАЛІ...

Зноў дажджынкі, быццам кулі,
Сыплюцца пад ногі.
Эх, вы гулі мае, гулі!
Я прамокла трохі.

Мой прыпынак, і аўтобус
Бліпчыць, быццам новенькі!
За акном ліхтар, як глобус...
(Зямля — мая схованка.)

Барабаніць дождж у вокны,
Ажно ляцяць пырскі.
Мокнуць вербы,
Салдат мокне
Там, ля абеліска...

Эх, вы гулі мае, гулі!
Вось і мост праз Сож.
Добра, калі дождж, як кулі,
А не кулі, быццам дождж...

## ГАЛІНКА АЛЕШЫНЫ

Мне б галінку алешыны
З нашай арэхавай Воленкі,
З лесу, дзе ягады першыя
Збірала з цёткаю Вольгаю.

У бутэльку з вадою
Гэту пастаўлю галінку,
Лесам запахне ў пакоі,
Лісцем зялёным — узімку.

З сэрца прагоніць роспач
Горкага паху глыток.
Матчыны ўспомняцца вочы,
Родны вясковы дымок...

* * *

На палях тваіх — лёну нябёсы,
Царства бульбы і свята хлеба.
Беларусь мая срэбнаросная!
Бохан сонца ў далонях герба!
Адчуваю сябе ручаінкай
Тваёй чыстай крынічнай вады.
На будоўлях — тваёй цаглінкай,
Дрэўкам сцяга твайго — заўжды!

## ЧАЛАВЕК

Араў ён плугам шэрую зямлю,
Шурпатаю сякерай дровы сек
Ён —
Чалавек.

Стваральнік сонца, што ўначы гарыць,
Зацугліў правадамі сілы рэк
Ён —
Чалавек.

Цяпер і космас узараў ракетай.
Што ж ён пасее у наступны век,
Ён —
Чалавек!

# ШЧАСЦЕ

Калі пакрыўдзяць словам,
                                        зганьбяць плёткай,
Бягу паслухаць, як дачка смяецца.
І боль знікае нечакана лёгка
Ад шчасця,
                    а яно дачкой завецца.

Калі над светам цень вайны шалее,
Мацней дачушку я тулю да сэрца.
Трывога узнікае і мацнее
За шчасце, што Алёнкаю завецца.

Калі яна глядзіць вачамі сінімі
І усміхаецца ўсяму на свеце,
То мне здаецца, што і зло загіне
Ад шчасця,
                    а яно завецца — дзеці.

## ТРАЛЕЙБУСЫ

Мне падабаюцца тралейбусы.
Яны так важна праплываюць,
А ў вокнах людзі, быццам рэбусы.
Які мудрэц іх разгадае?

Як нетутэйшыя алені,
Узняўшы рогі к нравадам,
Плывуць тралейбусныя цені
Насустрач дням і вечарам.

І калі толькі для каханых
Цвітуць цюльпаны-ліхтары,
Вязе па вуліцах заспаных
Тралейбус водбліскі зары.

І затрымаецца ад ходу,
І насмяшыць яго той гром,
Што конь узняў сваёй падводай,
Дзе цыганок, нібыта гном.

## СУСТРЭЧА

Лёгкі вецер над Круглай плошчай
Носіць музыкі лёгкі пошчак.
Ці ж не гэты вось самы вецер
Дома вербаў калыша веццe?

— Добры вечар, аднавяcковец!
Я цябе разумею без слова.
Ты якія прынёс навіны?
— Клічуць маці з сястрычкай:
— Ніна!
    — Што, сумуе па мне калодзеж?
— Ты калі на ваду гэта пойдзеш?
Ціха шэпчацца з ветрам ліст...

— Мне дадому хочацца, Мінск!

3 Зак. 2019

## ГАРАДСКАЯ СЯЛЯНКА

На кліч вятроў,
На звон лістоты
Я адказала:
— Не пайду.
Бо прырасла я ўсёй істотай
Да той зямлі,
З якой расту.

Я гарадской іду сялянкай
Па вёсцы, сэрцу не чужой.
А вёска наша партызанкай
Стаіць паміж бяроз і хвой.

# ХІБА Ж ПАРАЎНАЦЬ...

Хіба ж параўнаць
Нават з сонцам маці?
Калі сонца — цёпла,
А ёсць маці — добра.

Хіба ж параўнаць
Нават з песняй маці?
Бо песня — любімая,
А маці — радзімая.

Можна параўнаць
Толькі з вясной маці.
Вясне рада птушка,
Матулі — дачушка.

* * *

Чаму ў сэрцы туга
Тугая — не парваць?
Аброць гадоў тугай
Праз час, нібы праз гаць.

Но! На сівым кані —
На расцяробы зноў.
Табе раскажуць пні,
Па колькі ім гадоў.

Ды хутка не гані
І лёс не абганяй.
Глядзі, вунь карані
Гадуюць новы гай.

* * *

Гады праходзяць...
Хутка як праходзяць!
І дочкі ўжо сваіх дачок народзяць...
Дачцэ пра маці думаць ужо некалі.
Да маці — сёння, заўтра — не паехалі.
А дні бягуць: быў вечар,
і зноў — раніца...
Для маці толькі дні чамусьці цягнуцца!

І месца не знаходзіць сабе маці
Ані ў суседкі, ані ў роднай хаце.
Ну, што рабіць?
Ну, як сабе даць рады?
Паехаць да дачкі?
Ці ж будуць рады?

Гады праходзяць,
Хутка як праходзяць!..

* * *

Ты мяне, калі ласка, пусці,
Ты не кліч мяне болей, дарога.
Справа тут не ў кволай касці,
У мяне яшчэ дужыя ногі.

Тут другое: гняздо я звіла
І яго берагу ад гора.
Ты ж мяне сюды прывяла,
Мне даверыла гэты горад.

І таму я прашу, пусці
І не кліч мяне болей, дарога.
Бачыш, вучыцца зноўку хадзіць
Дачушка мая да парога.

* * *

Прарастаю праз слёзы
Думкамі, вершамі,
Прарастаю ў нябёсы
Мараю першаю.
Хоць не лепшай, не варта,
Хоць не так, як хацела,
Прарастаю упарта,
Ды шкада, што нясмела.
Так упартасць сагне,
Так цябе перайначыць,
Што ў ёй днём з агнём
Ты сябе не убачыш.
І пакуль дабярэшся
Да светлага раю,
Столькі гора спазнаеш,
Што і думаць не раю.
Ды, як парасткі тыя,
Што шумяць сёння садам,
Набіраем мы сілы
Цераз боль, цераз радасць.

* * *

Я стаю у хаце ля акна
І вачамі воблака трымаю,
У якім зблудзілася вясна,
Разам з цёплым сонейкам блукае.

Ветрык каля веснічак прыціх,
Ручаёк завіўся, як вяроўка.
З воблака, з вачэй маіх
Пачынай, вясна, сваю вандроўку.

## ВЯРТАННЕ

Прывітанне табе, Пракопаўка!
Ты — маё яснае сонейка.
Прывітанне табе, Дуброва —
Кут мой лазовы!

Лозы, лозы ў чырвоных боціках,
А на сонейку грэюцца коцікі...
Мае ж думкі імкнуцца да мамы —
Самай лепшай і добрай самай.

І пакуль у клапотах штодзённых
Зямлю
неба люляе ў далонях,
На руках тваіх спею, Пракопаўка,
Як на яблыні ў садзе антонаўка.

4 Зак. 2019

# РАНАК

Які музычны ты сёння, ранак!
Запелі птушкі яшчэ зарана.
Які руплівы ты сёння, ранак!
З дому араты выйшаў на ганак...
Які прыгожы ты сёння, ранак!
Дзяўчына з гнуткім, як хваля, станам
Са студні неба ўверх падымае
І вёдры поўныя налівае,
Глядзіць на свет зачаравана,
Які ж дзівосны ты,
Мірны ранак!

* * *

Колькі ў маім Гомелі рабін!
Тэлевышка арабінайззяе.
Нават лёс у нас цяпер адзін
З горадам, як у рабіны з гаем.

Шчасце ў мяне з горадам адно,
Вуліцы, і кветкі, і фантаны...
Кожным ранкам горад у акно
Прывітальна мне ківае кранам.

Цягнікоў вандроўных перастук
Заманіць удаль мяне ці зможа?
Арабінай я сама расту
У зялёным горадзе на Сожы.

## СОН

Галава цяжкая стала,
Вейкі цяжка узнімаць.
Замаўкае ўсё памалу
І кладзецца ціха спаць.

Думкі-мары ўсе дзявочыя
Паляцелі пад адхон.
І цалуе вусны, вочы
Малады, салодкі сон...

* * *

Дрэмлюць мае летуценні
І ў ясны дзень і ўначы...
Грымнуў бы гром вясенні,
Рэхам патрос далячынь!

Каб мара мая і натхненне
Маланкай жахалі ўгары,
Каб зноў мае летуценні
Успыхвалі на зары.

І птушка глядзіць на неба,
Калі п'е ваду з каўша.
Мне вецер і неба трэба,
Каб зноў запела душа...

* * *

Уцякло маленства —
Змейкі тонкіх кос,
Збітыя каленкі,
Ў ластаўчынні нос.

І калі ж ты вырасла
Сярод лялек тых,
Што пад стол закінула —
Мілых і... пустых?

Вось табе рука мая,
Будзем сябраваць!
Каб пустымі лялькамі
У жыцці не стаць.

* * *

Вёска, вёска мая, шматгалоска!
Адгукніся мне рэхам у лесе.
Для мяне ты не проста вёска,
Для мяне ты не проста Палессе.

Пачыналі тут песню мацеркі,
Плугары баразну пачыналі.
І звінелі ў рабіны пацеркі
На асеннім лісцёвым балі.

Я гляджу, як у небе шчасліва
Ззяюць зоры, бы ў лузе краскі.
І гукае мяне Радзіма
Рэхам светлай дзіцячай казкі.

## У ЛЕСЕ

— Ніна,— крычаць сяброўкі.
— Ніна,— гукае рэха.
— Ніна,— шыпшыннік колкі
Кліча мяне са смехам.

— Ніна,— гучыць за горкай.
Ды глохнуць лясныя гукі.
Чутна, як скача вавёрка,
Чутна, як дзяцел стукае.

Сонца нырнула зверху
У лісце і зелена ззяе.
Мяне на руках, як рэха,
Лес пяшчотна люляе...

* * *

Запытаў мяне рамонак кволы,
Што схіліўся над пакосам голым:
— Ты па што прыйшла ці па каго?
Адказала я, што па яго.

Паглядзеў дакорліва на вёску,
А затым на скошаную слёзку
І махнуў нявесела пялёсткам:
— Не да таго!



5 Зак. 2019

* * *

Так цвілі мае паляны
Пралескамі першымі!
Сярод кветак тых духмяных
Я была — найлепшаю.

І цяпер цвітуць паляны
Пралескамі першымі.
Сярод кветак тых духмяных
Ты, дачка, найлепшая.

* * *

І цяжка мне, і летуценна,
І светла на маёй зямлі.
Асветлен лес, хоць і заценен —
Карой адсвечваюць камлі.

Плывуць насустрач мне аблокі,
Бягуць насустрач мне вякі.
А я да вас, мае вытокі,
А я да вёскі — напрасткі.

Вось тут бярэ мой век пачатак,
Тут родны сад, тут родны дом...
А што мой выбера нашчадак
І дзе саўе сваё гняздо?

* * *

На старэнькім,
як сама,
пяньку
Села бабка,
Жоўтую руку
Палажыўшы,
Нібы ліст сухі,
На сваім гарбаценькім кійку.
А зязюля ўсё крычыць:
«Ку-ку!» —
За лістом зялёным у цяньку,
Нібы кажа бабцы:
«Будзеш жыць».
І у той сляза з вачэй бяжыць...

# СУМ

Сум душы маёй,
Ты чаго крычыш?
Дай душы спакой,
Падары мне ціш.

Сум душы маёй,
Ты чаго маўчыш?
Страшна мне адной,
Мяне душыць ціш.

* * *

Зацвітаюць вечарамі
Зоры у блакіце,
Закрываюць свае вочы
Васількі у жыце.

Раніцою вянуць зоры,
Кветкі ж расцвітаюць...
Хто не знаў ніколі гора —
Радасці не знае...

І на беды, і на ўдачу
Лёс зямны багаты.
То смяюся я, то плачу:
Смех і плач — блізняты.

* * *

Каму я гэтым шчасцем абавязана!
Мой самы, мой жаданы чалавек?
Тваім рукам, твайму пагляду яснаму,
Што сэрца асвятліў на цэлы век?
Каму я гэтым шчасцем абавязана!
Табою захлынацца, як вадой,
А потым ажываць з табою разам
І адчуваць сябе такой зямной!
Каму я гэтым шчасцем абавязана?..

* * *

Ноч, як хусткай, ахінула плечы...
Любы мой, як я чакаю стрэчы!
Ці не скажуць твае лодкі-вочы,
Дзе іх калыхалі хвалі ночы?
Ці не скажуць твае рукі-вёслы,
Дзе іх калыхалі хвалі лёсу?
Ці не скажуць сёння твае вусны,
Чаму мне без іх на свеце пуста?

* * *

Ты патрэбен мне гэтым ранкам,
Калі вэлюм, як сон, вісіць.
Калі людзі збягаюць па ганку
І спяшаюцца дзень пражыць...
Ты патрэбен мне гэтым ранкам.

Ты патрэбен мне днём асеннім,
Калі тоне ў вачах туман,
Калі час назад не павернеш,
Калі зелень ужо спадман...
Ты патрэбен мне днём асеннім.

Ты патрэбен мне ў гэты вечар,
Калі я патрэбна табе.
Калі ўсё ж другі мае плечы
Асцярожна горне к сабе...
Ты патрэбен мне ў гэты вечар.

Ты патрэбен мне цэлую вечнасць,
Калі нават не буду твая,
Калі здасца ўсё недарэчным
І не трэба табе буду я...
Ты ж патрэбен мне будзеш вечна.
Ты патрэбен мне...

* * *

Не прыйшоў, і не трэба.
Восень лісце губляе.
Як цыганка
У плацці квяцістым,
Гуляе.
Я руку працягну ёй —
Няхай адгадае,
Дзе вясна мая сонечная
Прападае.

Там, дзе бусел дажджынкі
Палошча ў горле,
Вясна зачапілася
За зялёнае голле.

Пераждыць яшчэ трэба
Зіму не адну,
Каб буслы па-над грэбляй
Згубілі вясну.

Калі прыйдзе ён, любы,
Тады й будзе вясна...
Праўду восень сказала,
Я ж адна ўсё, адна.

* * *

На сястру надумала — сяброўка,
Не мая, вядома, а твая.
Ды ў мяне такая завядзёнка:
Не паказваць выгляду, што я...
Так усхвалявана гэтай з'яваю,
Што да месца быццам прырасла.
Толькі сэрца загайдала хваляю,
Нібы тую лодку без весла...

* * *

Як маланка,
                    бяроза
Мільганула галлём.
Тэлефонная проза.
Голас твой.
Першы гром...

Гром з маланкаю, мусіць,
Даўно сябрукі?
Калі б вусны да вуснаў,
І рука да рукі...

## ЧАКАЮ

Я чакаю цябе,
Чакаю той вечар,
Калі звонкае лісце
Ахіне дрэваў плечы,
Калі зноў ад пяшчоты
Тваёй у палоне
Будзе твар пунсавець
У гарачых далонях.
А сягоння салдат ты,
Пагранічнік сягоння,
Беражы, мой каханы,
Наш хвалюючы вечар,
Беражы шолах лісцяў,
Дрэваў голыя плечы,
Зберажы мне пяшчоту
Сваіх моцных далоняў,
Зберажы свае вусны
Для мяне,
Хай палоняць.

* * *

Мяне вабяць дарогі
І чароўныя ўсмешкі.
Каб яшчэ калі трохі
Паблукаць па тых сцежках,
Дораг дзе кожны кусцік
З бляскам росных галінак,
Дзе свавольнікі-хлопчыкі
Пільнавалі дзяўчынак,
Дзе вясною чаромха
Цешыць вока красою,
Цалаваў дзе таропка
Мяне хлопец вясною...

## НЕ ТАКІ, ЯК УСЕ

І навошта тады
Са мной побач ты сеў,—
Не такі, як усе,
Не такі, як усе?

І чаму ты глядзеў,
Як падаў паліто,
На мяне, як ніхто,
На мяне, як ніхто.

І цяпер я хачу
Табе сніцца у сне,
Не такой, як усе,
Не такой, як усе.

* * *

Смяецца званочак блакітны
На белым тваім стале.
Мне хораша,
                    толькі нібыта
Кагосьці табе не стае.

Вось скрыпнулі дзверы сярдзіта,
І чуецца голас яе...
І, як той званочак блакітны,
Заззялі вочы твае.

Ляжыць нерухома
                    забыты
Званочак табой на стале...
Чаму мне так сумна,
Нібыта...
На свеце цябе не стае.

* * *

Успалыхнула зарніца
На палову нябёс!
Ну, чаго ж я, дурніца,
Уцякла да бяроз?

Можа, клікне з надзеяй
Голас, поўны тугі?..
Не заве, не ідзе ён,
Ой жа, горды які!
Ён — мая таямніца,
Неспакойны мой лёс.
Ну, чаго ж я, дурніца,
Уцякла да бяроз?

* * *

І адкуль ты ўзяўся
на маю галоўку!
Такі хлопец хітры,
такі хлопец лоўкі!

Бо, калі прыходзіш
ка мне на спатканне,
Забываю нават,
дзе вечар, дзе ранне.

Вось сама бягу я
да свайго Адама,
Нават ног не чую,—
дзе ж дубец твой, мама!

* * *

Прыйдзі, прыйдзі, прыдзіра!
І зразумееш сам —
Цябе я, калі шчыра,
Нікому не аддам.

Пакінутым
пакінь ты
Прыкідвацца. Вось так.
Патрэбен мне адзін ты,
Упарты халасцяк!

Ідзі, ідзі, ідзі ты!..
Калючы вось такі.
Ласкавы і сярдзіты —
Чорт ведае які!

Прыйдзі, прыйдзі, прыдзіра!
І зразумееш сам —
Цябе я,— калі шчыра,—
Нікому не аддам.

* * *

Эх, мой хлопец,
                    ты — як бераг той гарысты!
Для цябе я, мой спакойны,
                              вельмі быстрая?
Думаў ты, што буду ручаінкаю
Ля цябе свяціцца кожнаю пясчынкаю.
Ну, а я ракой вясновай разлілася,
Ды вакол цябе, мой бераг,
                              абвілася.

* * *

Дзіўна, дзіўна!..
Я лаўлю усмешку
І твой погляд шчыры на сабе.
Я хачу быць сёння самай лепшай,
Спадабацца я хачу табе.

Я сяджу, зусім не чырванею.
Выручае вопыт і гады.
Толькі ўся ад погляду нямею,
А ўсе думаюць — нямееш ты.

Мой цягнік...
І круг сяброў радзее.
Пацалунак твой.
І вось тады
Я уся шчаслівa чырванею,
А ўсе думаюць —
Шчаслівы ты.

* * *

Сэрцы два чакалі,
Зналі — будзе.
Бліскавіцай думка:
— А што людзі?

Не маглі загладзіць гэтай думкі
Нават рукі, нават пацалункі.

Толькі час памог з ёй прымірыцца,
Толькі час...
Ды ў ночы навальніца.

* * *

Баялася згубіць — згубіла,
Баялася зманіць — зманіла.
Баялася кахаць — кахаю.
Баялася пазнаць — ды знаю.

* * *

У ноч я кінуся:
— Забудзь!
У ранак выбегу:
— Забудзь!
У дзень я увайду:
— Забудзь!..
Што ж...
Я забуду як-небудзь,
Ты ж паспрабуй мяне забудзь.

* * *

Адчуваю кожнай клеткай шчасце
Ад таго, што ты са мною побач.
Твае вусны — то маё прычасце,
Твае рукі — мне у шчасці помач.

* * *

Нібыта сокам звонкія бярозы,
Напоўнен рэхам мой бацькоўскі гай.
Каліны ўсе у вэлюме нябёсаў,
Хоць ты іх сёння замуж аддавай.

Якая тут прыгожая бяроза!
Прывабны стан і валасы шыкоўныя,
Тугія грудзі — свежыя, як росы,
Відаць адразу — дрэва чыстакроўнае.

Аж свеціцца ад іх бацькоўскі край,
Які я зноў убачыць так хацела!
І калі ёсць на белым свеце рай,
То ён схаваны ў гэтым царстве белым,
Дзе гай бярозай поўны цераз край,
А кветак ля бяроз настольнік цэлы.

# А ВІШНЯ ЎСЁ Ж ЦВІЦЕ...

*Памяці Я. Корчака і ўсіх дзяцей, якія загінулі ў час вайны*

## I

Чалавек у вішні запытаў:
— Ці ж цябе я снегам не ўкрываў,
Ці ж цябе вадой не палівай?

Кожны год ты, вішня, расцвітала,
Ягадамі ўсіх ты частавала.
Дык чаму ж яны цяпер, на жаль,
На зямлі зялёныя ляжаць?

Адказала вішня чалавеку:
— Для чаго мяне ўкрываў ты снегам,
Паліваў вадой?
Каб я расла
Для дабра,
Скажы мне,
Ці для зла?
Не, зялёным вішням больш не спець.
Дый нашто расціць мне іх?
На смерць?

## II

Цягнік ішоў...
Спявалі дзеці,
Ляцелі ў неба адгалоскі!..
Вязлі дзяцей у лагер смерці,
А дзеці думалі — у вёску.

Яны лавілі ў жмені вецер,
Віталі ўзмахамі бярозку!..

Усё бліжэй быў лагер смерці,
А дзеці думалі, што вёска.

— Ратуйся, Корчак, без дзяцей,—
Казалі ворагі не раз.
— Не ўсе нягоднікі яшчэ! —
Адзін у доктара адказ.

І вось прыехалі, нарэшце.
Заціхлі песень адгалоскі...
Трывожна паглядаюць дзеці:
— Хіба ж такой бывае вёска?

Чаму яна, нібы нямая,
І кветак тут няма чаму?
Чаму няма кароў ля гаю,
Працяжнага не чутна «му-у»?

Чаму ж тут птушкі не спяваюць,
Чаму няма зусім людзей?
Адны фашысты тут гуляюць...
...І карацее век дзяцей...

III

Можа, было б лепей нашым дзецям,
Каб іх не было зусім на свеце?
Можа б, шчаслівай была вішня,
Каб яна з-пад кораня не выйшла?

Калі гора засцілае свет,
Страх бярэ за роднае дзіця,
Што народжана ужо на свет
І яшчэ не ведае жыцця.

І ўсё ж я з вішняю не згодна,
Хоць мы з ёю мацяркі ўдваіх,

Бо жыццё дала нам з ёй прырода,
Як на цэлы век, так і на міг.

І якраз на столькі, каб паспець
Для жыцця і, значыць, для дзяцей
Хоць на момант перасіліць смерць.
Паглядзі! А вішня ўсё ж цвіце!

IV

Хай там расцвітаюць вішні,
Дзе ворагі некалі йшлі.
Хай дзеці ніколі лішнімі
Не будуць на гэтай зямлі!

Ідуць яны — сонца ў зрэнках.
Ва ўсім давяраюць свету.
Іх крокі такія маленькія,
А чуе ўся планета.

Розныя дзеці, розныя,
З вачамі, як кветкі росныя.
І ўсім патрэбна ўсмешка:
Кірпатым, шчарбатым, пацешным...
І дзе б яны ні раслі,
Дзеці — жаданне Зямлі.

Жаданне быць бессмяротнай
І радавацца Першамаю,
Калі пад сцягі народы
Дзяцей на руках узнімаюць.

І я з дачушкай задачы
Рашаю, страчаю вясну.
Але чаму стала бачыць
Так часта я сны пра вайну?

Вайны я зусім не знаю,
Дачушка мая таксама.
Наіўна яна пытае:
— Вайна мяне любіць, мама?

І зноў у сэрцы трывога,—
Куды ж мне яе падзець!
Вайна не любіць нікога,
Хіба што адну толькі смерць.

Заходзіць і ўсходзіць сонца,
Ці ўсіх цяплом сагравае?
Дзеці — шчасце бясконцае,
Няўжо мы яго не ўтрымаем?

V

У садзе лісцё зялёнае!
Дачушка мая Алёна,
Табой не нацешацца вочы
Ні ў ясны дзень, ані ўночы.

Ты — з вечнай Хатыні дзяўчынка,
Ты — з Трэблінкі спалены хлопчык.
Ты сёння з сяброўкай Галінкай
Ява светлая Корчака.

Таму я прашу:
— Алёнка!
Галоўка мая ты светлая!
Сарве вораг нашу рамонку —
Ты не забудзь яму гэтага.

Дачушка мая Алёнка!
І ў дні шчаслівыя, светлыя —
Пажары, магільныя ўзгоркі —
Ты не забудзь яму гэтага.

## ЛЕКСА

### I

Хто ведае цётку маю з нашай вёскі?
Звычайную Лексачку з простай прычоскай.
Закручана ў вузел каса невялічкая,
У шэрых вачах —
смяшлівыя znічкі.
Яшчэ яе вочы вядомы, няйначай,
Тым, што ў іх наіўнасць дзіцячая,
Такая даверлівасць (божа мой, божа!),
Яна вось і робіць цётку прыгожай.

Але ў маёй цёткі нямашака мужа,
Няма і дзяцей, якіх хочацца дужа.
Няма парасяці, і нават каровы,
Бедная Лекса —
нявеста Хрыстова.
Затое ў кутку —
абразок на абразе,
(Хоць кожны пры іх мог цётку абразіць).
Напэўна, ў глухіх і святыя глухія,
Бо цётка не чуе, мае дарагія.

Яшчэ калі я не хадзіла ў школу,
Расказвала цётка мне пра анёлаў.
З гадамі свой вывад зрабіла і я:
Рай — гэта наша Зямля.
Яна і хавае, і нараджае
Вас, людзі вясковыя і гараджане,
Вас, зверы лясныя і птушкі крылатыя,
Вас, песні зямныя ля цётчынай хаты.

Песня першая

Ой, ляцелі птушкі,
Птушкі-невялічкі,
Чаму смутку поўны
Вочы ў маладзічкі?

Чаму смутку поўны
Вочы ў маладзічкі,
Што сядзіць у садзе
Пад грушаю-дзічкай.

Пад грушаю-дзічкай,
Дзе цячэ крынічка...

Дзе цячэ крынічка,
Была ў ветра звычка,
Была ў ветра звычка
Трэсці грушу-дзічку.

Трэсці грушу-дзічку,
Як лёс маладзічку.

II

Я ў хату вас да цёткі запрашаю,
Пры ўваходзе вам
прыгнуцца
крыху раю.
Дзверы нізкія тут,
Сва́я, быццам клін,
Можна гуз сабе набіць
І не адзін.

Так, анёлаў і святых тут,
Нібы ў раі.
Вось Хрыстос сам...
Ну, а гэта хто такая?

Вочы, быццам у суседкі, у Аксінні.
Толькі зрэнкі у суседкі нашай
сінія.
Толькі Хведара за вусны-мёд Аксінні
На пасаг садзілі чынна і гасцінна.

Не. Аксінню не лічыў ніхто святой.
Сіратой была Аксіння, сіратой.
Нарадзіла яна Федзю трох дачок,
Трох дачок, як мяты горкае пучок...

— Дзе ж, Аксіння, цяпер донькі твае?
— Пахавала, мае людцы, на вайне.

Песня другая

Мілая пралеска,
Стань маёю донькай.
Я цябе пагладжу
Ласкава далонькай.
Сінюю галоўку
Прытулю да шчочак,
З кропелек-расінак
Надзену вяночак.
Напаю вясновай
Дажджавой вадзічкай...

Гадавала доньку,
А вырасла знічка...

III

Вось з дзіцём мадонна.
Можа, Літта?
Не, канешне. Гэта Адзігітрыя.
Цётка кланяецца ёй з малітвамі.

Ёй іконы гэтыя, як дзеці.
Хоць і не прызнаецца, паверце,
Колькі яе помню, уставала
І малітвы-казкі ім чытала,
Потым асцярожна цалавала,
Што інакш, магчыма, і не знала,
Што цалуюць мёртвых, як ікону,
А жывых, любімых па-другому.

Мая цётка... Ёй не дваццаць тры
І не пяцьдзесят. Вышэй бяры.
Колькі часу, як зіма, вясна...
Без абдымкаў, без любві. Адна.
Колькі шэрых дзён, нібы імжа,
Сноў халодных, як лязо нажа.

### Песня трэцяя

Дзе гусей сляды,
Пясок залаты,—
Там мае гады,
Дваццаць тры гады.

Што для шчасця трэба?
Дах блакітны з неба
Ды яшчэ гады,
Дваццаць тры гады,
Дваццаць тры гады.
Дзе няма нуды,
Дзе са мною ты —
Там мае гады,
Дваццаць тры гады.

І для шчасця трэба
Круглы бохан хлеба
Ды яшчэ сваты

У мае гады,
Дваццаць тры гады,
Дваццаць тры гады.

Шлях вядзе куды?
Не было б бяды.
У мае гады,
Дваццаць тры гады.

А для шчасця трэба
Дах блакітны з неба
Ва ўсе гады,
Ва ўсе гады,
Ва ўсе гады.

IV

Быць у цёткі я люблю,
                                        калі прызнацца,
Хоць тут не раскошныя палацы,
І хацела б хоць і без малітвы
Пакланіцца зноў Адзігітрыі
І яшчэ Прылуцкаму Дзімітрыю...
Бо яны  падобныя на тых,
Хто жывым сышоў бы за святых.
Вось сын божы Аляксей...
Яй-богу!
Як дзве кроплі сходны ён з Атрохам.
Праўда, можа, ён і не сын божы,
Ды з такою ж барадою гожай.
Такі велічны і мудры дзед.
Сын яго ўзначаліў гарсавет.

Раскажала б многа аб Хрыстосе,
Гэта значыць аб жывым Фядосе.
Як яго фашысты катавалі,
Як яго на крыжы распіналі...

Не. Расказ мой не над сілу мне,
Ён над сілу хіба што вайне.
Лепш давайце мы яго мінем...
«Страшны суд»? І гэта аб вайне!
Прабач, цётка,
Я дамоў, назад,
Хто за Страшны суд,
Той проста — кат.

Бачыце, хачу я, не хачу,
След вайны убачу і крычу,
І, пакуль жывая, не пушчу
Дух вайны у дом свой,
Не пушчу!

Песня чацвёртая

Не для вайны у небе — самалёт,
У моры — лодка,
Немаўля — у маці.
Не для вайны працуе мой народ,
Не для вайны стаіць салдат на варце.

Не для вайны і дочкі, і сыны,
Іх першы крок,
І дзень у школу першы.
Не для вайны ля помніка агні,
Не для вайны нас неба сонцам цешыць.

Не для вайны у горадзе — дамы,
Ля вёскі — лес,
Зубры у Белавежы.
Не для вайны
Хатынь, яе званы...
Не для вайны яны,
Не для вайны.

# ГВАЗДЗІКІ Ў ДАЛОНЯХ

I

Каліна, каліна!
Не раўняйся з ракою.
Не раўняйся з ракою,
А раўняйся са мною.
Прада мною — свет белы,
Тваіх кветак бялей.
Нада мной сцяг чырвоны,
Ягад ён чырваней.

На сцягу
І ў далонях савецкага герба —
Серп і молат пад зоркаю,
Быццам пад небам.
І таму я шчаслівая,
Разумееш, каліна,
Што пад ёй нарадзілася
Ў гэтай краіне.

А ці знаеш,
Што мара ў мяне ёсць,
каліна,
Пяціканцовай зоркі краіну
У песнях праславіць,
Каб сіла ў слова
Была, як у дудкі простай, вясковай.

Каб песня
Жытнёвых палёў была варта,
Вярбы пад акном
І матчынай хаты.

Няхай прагучыць яна
Дома, над Сожам,
Над нэлай планетаю нават,
Як зможа...

А ці знаеш, які
Сын у гэтай краіны?
На ўсім свеце вялікім
Такі ён адзіны.
Сваёй працаю славіць
Радзіму штогод.
Ён імя неўміручае мае —
Народ.

Гэта з вуснаў Народа майго
У Крамлі
Асноўны закон
Прагучаў на Зямлі.
У голасе трубным
Дваццатага веку
Мая Канстытуцыя —
Гімн Чалавеку.
Нясе яна рэкам
Вясны асалоду,
Палям — жытні колас,
Лясам — прахалоду.
Зямлі — травы ў росах,
Траве роснай — сонца.
А сонцу — нябёсы,
Нябёсам — бясконцасць.
Нясе людзям шчасце
Мірнае працы,
Свабоду пець песні,
Свабоду смяяцца.

II

Для тых,
Хто вартуе ад бомбы Радзіму,
Хто спіць у абдымках надзейных любімага.
Для маці,
Што водзіць няўмела рукой,
Котку малюе дачушцы маёй.
І для бабулі з новае хаты,
Што поіць ля рэчкі
Сваіх казлянятак.
Для тых,
Каму ў сцягах Кастрычнік відзён,—
Мая Канстытуцыя
Асноўны Закон.

III

Паклон табе ў промнях свабоды,
Радзіма!
Ад Зоркі Палярнай
Да самага Крыма.
Харошаць цябе
І галіністы бор,
Каралі рабін —
Асенні ўбор.
Харошаць і ружы,
Снег белы на скронях...
А болей за ўсё —
Гваздзікі ў далонях!

Паклон табе,
Мужны савецкі Народ!
Мой корань,
Радзімы апора і ўзлёт.
За восень тваю 77-га года,

За тое,
Што непераможны заўсёды.
За шчасце пад Зоркай,
За сонца бутон,
І сёння і заўтра —
Вялікі наклон.

IV

Каліна:
— Зямля наша будзе якая?
Калі нас не стане...
Такая? Другая?

— Не ведаю я,
Адно толькі знаю:
Сцяг будзе той жа
І Зорка тая ж.

З М Е С Т

Шклярова Нина Никифоровна
*МИГ И ВЕЧНОСТЬ*
Стихи
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке
*Рэдактар* В. Б. Спрынчан. Мастак В. В. Аланьцеў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар В. В. Шарамета.
ІБ № 331
Здадзена ў набор 21.11.78. Падп. да друку 05.06.79. АТ 01165. Фармат $70 \times 90^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,63. Ул.-выд. арк. 1,68. Тыраж 3000 экз. Зак. 2019. Цана 15 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі, і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.
Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.